Год I. Сьнежань. № 10.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 10:



„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год I. | ВІЛЬНЯ, — СЬНЕЖАНЬ 1929 Г. | № 10. |
|---|---|---|

**Пры гэтым нумары „Шляху Моладзі“ ўсім нашым акуратным падпішчыкам і супрацоўнікам пасылаем кніжыцу п. н. „Ziarniatki z rodnaje junackaje niwy“ — P. Z., як калядны падарак.**

---

## *У калядны сьвяты вечар...*

*Восень заляла зямельку... Восень сумная і жудасная. Тугой таёмнай, тугой балючай спавіла яна сэрцы нашы. Няма жыцьця! Вось сумны кліч, што адусюль насустрэч нам нясецца. Пачарнелыя нівы пустыя, красы сваей пазбаўлены дрэвы — сіроты, ды частыя сьлёзы неба хмарнага і ўсё, усё ў восенскую пару цёмную аб нястачы жыцьця нам гавора...*

* * *

*Дый надзеі на жыцьцё ня відаць. Вось ветры халодныя павеелі з поўначы, вось завіхрылася мяцеліца і беласьнежнай сарочкай, моў да гробу гатуючы, пакрыла ўсю зямельку нашу... Вось мароз—злосьнік надышоў урэшце і сьціснуў усё ў сваё ледаватыя, сьмяротныя абоймы.*

* * *

*Але ня сьмерць ёсьць сьвету валадарыняй а жыцьцё! Вось Каляда прышла. На небе весела, залігацелі зоркі. Сонца на сьвет нарадзілася. Прыдзе час — яно вырасьце, раскошна распусьце свае залатыя косы, цемру і сьцюжу разгоне, жыцьцю яго правы верне ..*

* * *

*Гэтак і ў жыцьці чалавека і ў жыцьці народаў. Ліхота людзкая, як гэная жудасная восень, як гэта*

*зіма — злосьніца, як урэшце ядавітая гадзюка, забірае нам жыцьцё, марозіць ды прагавіта высысае нутро яго.*

* * *

*Аднак кароткі век гэтай ліхоты чалавечай. Як мара бродзе яна па сьвеце, шукаючы сабе жыру, каб быць урэшце пакананай, каб даць месца жыцьцю поўнаму — Дабру, Праўдзе, Справядлівасьці, Красе... Бо і дух чалавечы Каляду сваю мае, бо і Яму мігцяць весела зоркі і сьвеціць яснае, цёплае, жыцьцётворчае сонейка...*

* * *

*Вось 1929 год мінае, як у Віфлееме нарадзілася Сонца душы людзкой — Хрыстос, Бог і Чалавек. Уся сіла жыцьця чалавеку там аткрылася. Дык завыла ліхота са злосьці, запенілась, натужыла ўсе свае сілы ў змаганьні з жыцьцём, але дарэмна! Ліхота падымае яшчэ часта сваю гордую галаў, зырка сьлядзіць за сваей жэртвай, дзіка кідаецца на яе і краважадна душыць, але перамога аканчальная па старане Праўды, Дабра, Справядлівасьці і Красы аказваецца.*

* * *

*Грызе ліхота народ наш Беларускі, але йшчэ хвіліна і народ гэты з трыумфальнай перамогай адкіне яе. Вось бачым ужо, як над краінай роднай бел-чырвона-белы сьцяг разьвіваецца, як вялікая і магутная грамада вояў — моладзі беларускай, перамагаючы ворага, да шчасьця народ свой вызваляе...*

*Хрыстова нараджэньне гавора нам аб гэтым, аб гэтым-жа гавораць нам і мігатлівыя зоркі ў сьвяты калядны вечар...*

*М. К.*



# МОРА...

*(Пасьвячаю Кс. Адаму Станкевічу ў дзень Яго Імянінаў 24.XII.1929 г.)*

Вось мора бушуе сварліва,
А грозныя хвалі за хваляй
Ўсьцяж коцяцца з шумам звадліва
І страшаць ўсё грознай навалай.

Так шыбка плывуць чарадою
І пеняцца злосна ўсё болей
І гінуць адна за другою,
Пакрыўджаны горшаю доляй.

Здаецца — няма ім прашкодаў,
Прастору там многа, так многа!
Здаецца ніхто-б іх ня ўходаў
Магутнага тога разгону.

Аднак-жа скала іх зьбівае
Сталёвымі грудзьмі сваімі, —
Далейшы разгон іх спыняе
І борыцца ўпорыста з імі.

Адны разаб'юцца балюча,
Другія патонуць у віры
І толькі пачуеш плакучых
У моры на дне аж на жвіры.

Дык будзь-жа і Ты той скалою,
Што сьмела стаіць сярод мора,
Каб сілай духовай сваёю
Змог шалы злачынцаў і гора.

Каб кожная негадзь прыплыўшы
Упала прад моцай Тваёю,
А дух Твой ўсе фальшы пабіўшы,
Лунаў-бы ідэяй сьвятою!

*Марвіч.*

# Больш ахвярнасьці.

Гаворачы аб працы на грунце беларускага адраджэньня, часта спатыкаецца такое выражэньне, што трудна нешта больш пакуль-што зрабіць, бо мы ўсе вельмі бедныя. Часта нават гэта прыходзіцца чуць ад людзей тых, каторыя хоць не вялікай сваей ахвярнасьцю, якой ня маюць, маглі-б усё-ж такі прычыніцца да расшырэньня гэтае працы.

Бадай-жа і ўся бяда наша ў тым, што ў нас мала ёсьць людзей ахвярных і ідэйных.

Праўда, што-б мы не рабілі добрае, усё вымагае шмат стараньняў. Тым больш-жа вымагае ўсялякіх стараньняў адбудоўка нашага краю, адраджэньне яго

Маем мы, напрыклад, хоць вельмі мала, сваіх устаноў культурных і гаспадарчых, але яны ня могуць акуратна выканаць сваіх заданьняў

А гэта дзеля таго, што мы беларусы любім дзяліцца, сварыцца і інш. і гэта ў нас да таго дайшло, што мы нават ня можам пагадзіцца на грунце культурным ды гаспадарчым. Жыцьцё-ж культурнае і гаспагарчае ў нас вельмі стаіць нізка, аб чым кажды добра ведае.

Каб-жа гэтаму ўсяму проціўставіцца, ня трэба бадай больш нічога, як ідэйных, ахвярных людзей да працы на ніве баларускага адраджэньня.

Кажды беларус павінен добра сабе ўсьведаміць, што ніхто нам нашай долі, нашага жыцьця не палепшыць, ня дасьць нам свабоды, калі мы гэтага самі сабе не здабудзем. Маем-жа мы прыклад, сколька ўжо ўсялякіх мелі гаспадароў, аднак ніхто не стараўся паправіць жыцьця беларускага селяніна.

Дзеля гэтага мы не павінны ані дзяліцца, ані сварыцца, а пачынаючы ад самых малых спэцыялізавацца за майстроў, за добрых гаспадароў і інш. і супольнымі сіламі папраўляць сваё жыцьцё, браць сваю эканоміку да сябе. Ад малых майстроўняў, ад малых палепшаньняў у гаспадарцы—да фабрык, да росквіту землябробства.

Цяжка ўсё гэта рабіць тым больш, што сялянскі народ наш бедны. Але сколькі хто можа, павінен ахвяроўваць на сваё беларускае выдавецтва, свае культурна гаспадарчыя ўстановы і супольнымі сіламі папраўляць свае гаспадаркі, а галоўнае: не шкадаваць стараньняў і працы ў гэтым кірунку. Тады напэўна ня прыдзецца доўга чакаць сьвятлейшых дзён жыцьця нашага гаротнага беларускага народу.

Я. Н.

# У здаровым целе—здаровы дух.

Гэтая лацінская прыказка, аб уплыве цела на духовы развой, была знаная ўжо старажытным народам, напрыклад Пэрсы добра зналі і верылі гэтай праўдзе. Пасьля аднак, праз шмат часу, некаторыя ўважалі гэта за галаслоўнае цьверджаньне, а нават у першых стагодзьдзях хрысьціянства некаторыя пад уплывам крайняга асцэтызму казалі, што цела ёсьць ворагам душы.

І сяньня яшчэ знойдуцца такія, што не бяруць паважна гэтае прыказкі. Тымчасам біолёгія выразна пацьвярджае справядлівасьць гэтага мудрага сказу.

Ва ўсей прыродзе, дзе ня кінуць вокам, існуе адна з найвялікшых сіл — жыцьцё. Сіла жыцьця праяўляецца ў расьліннай і жывіннай прыродзе, але толькі ў чалавека гэтая сіла можа праявіцца ў форме найдасканалейшай.

Асновай і падпорай фізычнага і духовага жыцьця ёсьць здароўе.

Кожны хоча жыць, але ня кожны ўмее падтрымліваць сваё здароўе, ад якога залежыць жыцьцё.

Постаць нашага цела ёсьць доказам яго жыцьця і здароўя.

Ніхто не запярэчыць, што на зямлі кожнае жывое стварэньне галоўную мае мэту змагацца за жыцьцё. А ці ёсьць магчымае нармальнае жыцьцё без здароўя?

Ці здароўе будзем мець без здаровага цела? Не,

Дык, каб нармальна жыць, трэба мець здаровае цела; гэта астатняе, каб было дзейнае і здаровае ва ўсіх сваіх найменшых частках, павінна мець рух. Такое ўжо ёсьць біолёгічнае права, што кожная клетка мускалу занікае, або пертвараецца ў менш важную, калі даўжэйшы час будзе бяздзейнай.

Праз рух вырабляем мы большую жыцьцёвую сілу мускалаў і гэтым самым здабываем сабе фізычнае і духовае здароўе.

У цяперашніх часах вучоныя раяць, каб дзяцей у моладасьці выхоўваць прадусім фізычна, а пасьля раўналегла з фізычным разьвіцём, развіваць і духова.

Ведама, што дзіця, ад пачатку свайго жыцьця, разьвіваецца фізычна і духова не праз навуку, але праз уласныя досьледы, якія здабывае пры помачы сваіх практычных рухаў. Таму кожнае дзіця ёсьць вельмі рухавае, аддаецца інстынктоўна руху, супакой і аспаласьць у дзіцяці ёсьць азнакай хваравітасьці. Што існуе вялікі ўплыў руху на творчую псыхічцую дзейнасьць чалавека, даказывае шмат вучоных, напрыклад адзін з Амэрыканскіх пэдагогаў, падаючы вынікі сваіх досьледаў, кажа аб вучнях — індыйцах, вучачыхся ў англійскіх школах, што хаця англійская моладзь мае

вельмі добрыя абставіны фізычнага развою, дзякуючы дасканальнай арганізацыі фізычнага выхаваньня, ня ёсьць аднак здольнай дараўняцца ў кірунку фізычнай лоўкасьці маладых індыйцаў, якія правялі першыя гады свайго жыцьця на ўлоньні прыроды і пастаянна змалку ад калыскі практыкаваліся ў бегах, лажаньню па дрэвах, коннай язьдзе, кіданьню каменьмі, палкай, ашчэпам. Гэтыя самыя індыйцы задзіўляюць настаўнікаў сваімі матэматычнамі здольнасьцямі, яснасьцю і выразнасьцю сваіх паняцьцяў і палётам філёзафічнае думкі. Ёсьць штось супольнае, кажа гэты вучоны, паміж надзвычайнай дакладнасьцю, лёгікай і сьмеласьцяй у думцы вучня — індыйца і дзіўнай цэльнасьцю ў кіданьні ашчэпам, або мячыкам, што даводжывае да энтузыязму яго ангельскіх кумпаноў і ўзбуджае ў іх захопленьне.

Так кажа амэрыканскі вучоны пэдагох аб карысным уплыве руху — спорту на духовы развой чалавека.

І запраўды, няма сумніву, што, каб мець здаровы дух, трэба быць здаровым на целе. Мы беларуская моладзь, павінны добра гэта сабе ўцяміць. Мы, мусім быць сільнымі і целам і духам. Прад намі вялікая праца. Нашя Маці—Краіна будзе ад нас вымагаць ня толькі сілы, але і ахвяраў, да якіх, каб быць здольнымі, мусімо быць сільнымі душой і целам.

Аб гэтым мы не павінны запамінаць і, маючы гэта на ўвазе, мы павінны ўсестаронна гартавацца.

Гэты гарт мы можам здабыць у гімнастычна-спартовых арганізацыях, якіх на жаль, у нас яшчэ няма.

Дзеля гэтага мы не павінны чакаць ані хвіліны, толькі закладаць свае гімнастычна-спартовыя таварыствы і ўсе да іх прылучыцца, аддаючыся ахвотна розным спортам.

На нашых сьцягах, апрача патрыятычных клічаў, павінна быць месца і для слоў: „у здаровым целе — здаровы дух.“

**Ул. Казлоўшчык.**

# Нагарода Нобля і яе тварэц.

Вельмі часта чытаем мы ў газэтах пра нагароды Нобля, але ня ўсякі ведае, што гэта такое.

Тварцом гэтай нагароды зьяўляецца ведамы ўсяму сьвету вынаходзец інжынер Нобэль, сын слаўнага інжынера, канструктара торпэдаў Эмануэля Нобля, швэда.

Альфрэд Нобэль радзіўся 21 кастрычніка 1833 году ў Пецярбурзе, дзе, кончыўшы школу, у 16 годзе свайго жыцьця, стаўся памоцнікам свайго бацькі ў мэханічных майстроўнях і адлеўні жалеза ў Пецярбурзе.

У 17 годзе выехаў ён у Амэрыку і працаваў у фабрыцы канструктара ваенных караблёў інж. Я. Эріксона. Вяр-

нуўшыся з Амэрыкі ў Расею ў 1854 годзе, у часе турэцкай вайны аддаў вялікія ўслугі для Расеі. Пасьля выехаў у Швэцыю. У гэтым часе сконструаваў газамэтр і зрабіў многа розных вынаходаў, як напр. нітрогліцырына—выбуховы матэр'ял і інш.

У Швэцыі Нобэль закладае фабрыкі, што з прычыны недахватку капіталу, яму ня ідзе лёгка.

Пры гэтым у часе будовы першае фабрыкі, здарылася вялікая катастрофа. Аднак перамагае ён усе перашкоды і, пабудаваўшы не адну, але шмат фабрык у Швэцыі і заграніцай, стаецца багатым чалавекам.

У 1866 годзе вынаходзе ён дынаміт. Потым так вялікі вынаход павялічвае яго капіталы столькі, што ён будуе фабрыкі ня толькі ў Эўропе, але і ў Амэрыцы.

Урэшце ў Парыжы, куды прыехаў з Швэцыі, вынашоў ён бяздымны порах і інш.

10 сьнежня 1896 г. Нобэль памёр у санаторыі Сан-Рэмо.

Інжынер Альфрэд Нобэль, ведаючы, у якой меры яго вынаходы могуць прычыніцца да стварэньня страшных спусташэньняў у часе вайны, быў вялікім праціўнікам яе і зазначаў заўсёды, што яго вынаходы павінны служыць толькі да папраўы варункаў людзкога жыцьця і дзеля гэтага-ж быў вялікім прыхільнікам навукі. У сваім-жа тэстамэнце жадае, каб што году былі выдаваныя пяць нагародаў грашавых з працэнтаў яго капіталу для найвялікшага вынаходцы ў галіне фізыкі, хіміі, фізыолёгіі, альбо мэдыцыны, для аўтара найлепшага літэратурнага твору і для таго, хто найбольш працуе для згоды ўсіх народаў. Кожны з гэтых людзей дастае 160.000 злотых і залаты мэдаль.

Вось-жа, што году ў Штокгольме ў Швэцыі раздаюцца гэтыя нагароды.

Найбольш нагародаў дасталі вучоныя нямецкія, пасьля францускія, англійскія, амэрыканскія і швайцарскія.

У гэтым годзе літэратурную нагароду дастаў немец Тіомас Манн. Напісаў ён добрыя повесьці і раманы: „Буддэнброкс“ і „Зачараваная гара“, каторымі здабыў усесьветную славу. Нагароду за працу ў галіне хіміі дасталі англіец і швэд.

Я. Н.



# Аб усім патроху.

**Найгусьцейшае насяленьне. Найгарачэйшае, найхаладнейшае, найглыбейшае, найвышэйшае месца. Найбольшыя месты. Сталіца сьвету. Новы металь. Пералёт паўднёвага полюса.**

Найгусьцей заселенымі краямі ёсьць: Англія, дзе на 1 квадратны кілямэтр прыпадае 270 асоб, Ява — 263 асобы, Бэльгія — 254 асобы. У Саксоніі, каторая ёсьць складовай часьцяй Нямеччыны, на 1 кв. клм. прыпадае 332 асобы. У некаторых часьцінах Кітаю, напр. каля Шангаю прыпадае на 1 кв. клм. 337 асоб. Сярэдняя цыфра для насяленьня ў Злучаных Штатах Амэрыкі 13,5 асобы на 1 кв. клм. У Польшчы 72 асобы. На землях-жа беларускіх — 35 асоб.

Найгарачэйшым месцам на цэлым сьвеце ёсьць аколіца Чырвонага мора ў Афрыцы. Там, у той час, калі сонца грэе, можна сьпячы яйцо на камені. Тэмпэратура даходзе да 50°.

Найхаладнейшай-жа мяйсцовасьцяй ёсьць Верхаянск у паўночным Сібіры. У Верхаянску маразы даходзяць да 47 градусаў і больш. Там сярэдняя тэмпэратура зімы 37,5 гр. холаду. На паўднёвым-жа і паўночным полюсе сярэдняя тэмпэратура 30 грд. марозу.

Найглыбейшае месца ёсьць на Спакойным акіяне, недалёка Японіі, дзе глыбіня дасягае 9.800 мэтраў, (бяз 200 мэтраў 10 кілямэтраў).

Найвышэйшыя горы на сьвеце — гэта горы Гімаляі ў Азіі, верх якіх дасягае вышыні больш як 8000 мэтраў (8 кілм.).

Найбольшыя месты на цэлым сьвеце: сталіца Англіі — Лёндын, Нью-Ёрк—порт у Амэрыцы, Бэрлін — сталіца Нямеччыны.

Найпрыгажэйшым местам лічыцца Парыж—сталіца Францыі і Вэнэцыя — места над Сяродземным морам у Італіі. Сталіцай сьвету лічыцца Парыж.

У адным з заграцічных лябораторыяў др. Э. Ф. Лёбы вынашоў новы мэталь званы „Копэль". Мэталь гэты ёсьць цьвярдзейшы ад усіх іншых мэталяў і вытрымлівае вышэйшую тэмпэратуру.

Нядаўна амэрыканскі капітан Бырд шчасьліва перэляцеў паўднёвы полюс. Бырд парабіў памеры над гэтым полюсам і многа зьняў фатаграфіяў. Усё гэта становіць важны навуковы матэр'ял. На падставе гэтых матэр'ялаў вынікае, што паўднёвы полюс паложаны на 4 тысячы мэтраў над роўнем вады. Бакі-ж яго высокароўныя і стромыя. (З.)

# З газэт.

## Літоўскі Статут.

У літоўскай газэце „Vilniaus Rytojus.“ з дн. 7.XII. г. г. зьмешчана стацьця, у якой аўтар цьвердзіць, што Літоўскі Статут напісаны быў у мове царкоўна-славянскай. Мы ў гэтай справе адно хочым сказаць, што аўтару гэтага артыкулу трэба было-б глянуць у сваю літоўскаю гісторыю літэратуры, у якой выразна сказана, што Літоўскі Статут быў напісаны пабеларуску.

Праўда, не значыць гэта, каб ён быў выключна беларускі, дзеля таго, што гэты Статут ёсьць вытварам народаў Вялікага Князьства Літоўскага, якое складалася з Літвы Беларусі і Украіны. Аднак палажэньне Беларусі і яе тагочаснае значэньне ўплывае на Літоўскі Статут так, што ён у вялізарнай частцы беларускі і мова яго беларуская.

З усяго гэтага вынікае, што Літоўцам, Беларусам і Украінцам трэба знаць добра сваю мінуўшчыну, каб ня ўводзіць ніякіх няяснасьцяў, памятаваць аб супольным супрацоўніцтве і працаваць на карысьць беларуска-літоўска-украінскіх ідэалаў.

(З.)



# Літэратурны аддзел.

## УЗЬЛЯЦІ ТЫ, СІЛА МАЛАДАЯ!

Узьляці ты, сіла маладая,
даволі ўжо табе ляжаць.
Гуртуйся, моладзь удалая,
і аб сабе давай ты знаць.
Збірай усіх, каму край мілы
і дружна, шпарка шчасьце куй;
свае фізычныя ты сілы
гартуй, змацняй, гімнастыкуй.
Бо кволы, мляўкі, недарэчны,
сказаўшы проста — цяляпей —
ў жыцьці ня будзе ён карысны,
на печы хай сядзіць ляпей.
Бо толькі сіла ў нашых часах
павагу мае і паслух,
а кволым кожны па абцасах
натопча — зьдзьмухне, як той пух.
Дык, моладзь, ёмкая, гаротна,
зьбірайся ты ў свае гурткі,
тады ня будуць так маркотна
глядзець вясковыя куткі.

Ў гурткох супольна і ахвотна
сваю ты ёмкасьць практыкуй,
ня будзь ніколі ты маркотна,
а дружна з песьняй шчасьце куй.

**Ул. Казлоўшчык.**

## ВЯСНА, ВЯСНА...

Вясна, вясна жыцьця майго,
Дзе зьнікла ты, куды пайшла?
Шукаю я шляху твайго
І клічу ўсьцяж, каб зноў прышла.
Вясна-краса, вярнісь узноў,
Улі жыцьцё маей душы,
У сэрцы мне сагрэй ты кроў,
Халодны лёд у ім скрышы...
Пашлі прамень ў душу маю,
Збудзі ахвоту да жыцьця,
Адкрый мне тайніцу сваю,
Разьвей ты хмару нябыцьця.
Няма вясны, пайшла ўжо проч,
Яна ня вернецца ка мне.
Дык сьніць я буду кожну ноч,
Аб прошлай, радаснай вясьне...

**Марвіч.**

* * *

Гэй, думка арліца, ачніся,
Даволі так доўга ўжо спаць.
Глянь—відна ўжо, гэй! ўстрапяніся,
Ў блакіце так добра шыбаць!...
Ты ў шыбкія крыльля адважна
Паветра абшар ухапі,
Шырокае вока разважна
У тоўпы людзей утапі.
Ты ўбачыш усе іх тайніцы,
Зьмест іх адкрыеш жыцьця,
З якой ўсьцяж сачыцца крыніцы
І радасьць і гора быцьця.
Гэй, думка арліца, сьпяшыся,
На ўсходзе, — глянь, палящца зоры,
А цемры начы разышліся
І лёгка і добра ў прасторы!
Ты ў шыбкія крыльля адважна
Жыцьцёвы абшар ухапі,
Першнаперш ў тоўпы сярмяжны
Ты зоркае вока ўтапі.

А ўбачыўшы ў гэтым народзе,
Што многа ёсьць гора і сьлёз,
Хоць многа багацьця ў прыродзе
І роўны усім даў Бог лёс.
А ўбачыўшы гэта, ты з крыўды
Песьні нядолі ствары,
Хай слухае сьвет іх абіды, —
Ты-ж сьмела усё гавары!

**Наддзьвінец.**

---

# Васілёва Каляда*).

У кавалёвай хаце ад самага сутонку сабіраліся дзяўчаты, думаючы варажыць. Адны пяклі бондачкі, другія пялі, гулялі, жартавалі, сьмяяліся.

— Ну, дзяўчаткі, усе ўжо маеце бондачкі, можа можна ўпушчаць Лыску? — адазвалася Міхалінка.

— Пачакайце трошка, я яшчэ сваей салам не памазала!—прасіла Броня.

— Во, маеш табе — на што-ж тое сала?

— Як, на што, — каб смачнейшая была і, каб запах ішоў.

Тут усе заварушыліся.

— Бачыце, яна хоча, каб яе бондачка пахла, дык сабака першую хопіць, а яна першая замуж выйдзе! Давайце ўсе памажам салам!

Калі ўсе булачкі былі ўжо памазаныя, палажылі іх на лаве ў адзін рад і кожная дзяўчына сьлядзіла за сваей.

— Ну як, пушчаць ужо сабаку, ці не? — пыталася Міхаліна.

— Пускай! — адказалі ўсе хорам!

— Глядзіце-ж, ня бунтуйце яго, бо ён ня будзе ведаць, за каторую хватаць!

Адчынілі дзьверы, убег вялікі сабака, званы Лыскай і, ня ведаючы, на што яго сюды прывялі, ня ўбачыў адразу бондачак. Тут дзяўчата зачалі крычаць кожная сабе:

— Лыска, Лыска, Лысачка сюды, сюды, на, на!

Тут Лыску зусім збунтавалі, але будучы вельмі галодным, бо гаспадар ведаючы аб сяньняшніх гульнях, не карміў яго, — пабачыўшы бондачкі, да якіх яго так ветліва запрашала ўся грамада, хапаў папарадку адну за другой, не

---

*) Вечар 31 сьнежня ў Ваўкавышчыне называюць — Васілёвай Калядой.

выбіраючы і не аглядаючыся на нікога. Сабаха, ведама, хапіў першую, каторая яму была бліжэй, гэта тую, каторая ляжала ад уваходу ў хату. Была-ж гэта бондачка Міхалінкі наймалодшай з прысутных.

— Э, што з гэтага, сабака быў галодны, дык ня мог правільна есьці. Гэта ня важна! Давайце другі раз будзем пячы! Цяпер ужо сабака наеўшыся! — бунтавалася Броня, маючая найбольшую ахвоту на выхад замуж.

— Ды не, ужо позна, трэба неяк іначай варажыць, без сабакі — заўважыла катораясь.

— Ведаеце, давайце будзем курэй з пад печы цягаць. Мне мая цётка казала, што яна калісь так варажыла. Трэба пад печкай папацёмку ўзяць курыцу і цягнуць, як крычыць, значыцца выйдзеш замуж, як не — то не. І так, сколькі раз крыкне — толькі лет трэба чакаць да шлюбу. Казала Броня.

— Ну, давайце!

Як пачалі курэй цягаць, а куры крычаць, дзяўчата сьмяяцца, — дык здавалася печку і хату разьвернуць. Дык матка, спючая на печцы, гэтак варажыць забараніла, бо казала, што яны ўсё пер'е павыдзіраюць з курэй і перапалохаюць, што яна потым іх ў хату не загоне.

— Дзяўчаткі, казала далей Броня, а можна іначай яшчэ варажыць. Трэба ўзяць два вугольчыкі і адзін з іх назваць сабой, а другі выбранным хлопцам, набраць місу вады, укінуць туды вугольчыкі і мяшаць ваду — калі вугольчыкі зыдуцца, то значыць ён ажэніцца з табой, калі не — то не... Або ўзноў давайце паскідаем кожная з правай нагі абіяк, *) зьмяшаем разам і будзем ставіць папарадку адзін за другім ад стала да парога і каторай абіяк першы стане на парозе, тая першая замуж выйдзе. А мо' пойдзем дрова насіць, толькі, бяручы, ня трэба лічыць, а ўжо потым, як прынясеш — паглядзець, ці пален выпадае да пары, ці не, калі выпадае да пары, значыць выйдзеш заруж, а як не — дык не... А мо' іначай, як хто знае?

— Ды што там іначай, глядзіце, ужо позна, уся вёска сьпіць, поўнач, ноч пагодная, месяц сьвеціць, марозу вялікага няма, можам ужо йсьці — запрапанавала адна з прысутных.

— А нават ідзём.

Паціху выйшаўшы на вуліцу, хлынулі ўсе да паркану і кожная абымала рукамі столькі, сколькі магла. Потым-жа пыталася ціханька адна аднэй:

*) Абіяк—гэта абуіна, каторая мае дзеравяную падэшву, а верх скураны, называюць іх у Ваўкавышчыне такжа і хадакамі.

— Ну як, ты да пары абняла?

— Я да пары, а ты?

— Таксама?

— Вот добра, значыць выйдзем замуж. А ведаеш, Броня абняла плот і не да пары, ня можа быць, каб яна ня вышла замуж, такая прыгожая, ды багатая дзяўчына — тлумачыла Міхалінка.

— Гэта нічога, што прыгожая і багатая, але заздросная, верыць у забабоны, фанабэрыстая, ды кепскі характар мае — талкавала блізкая суседка.

Броня, хаця парканінаў абняла не да пары, ня трацiла добрага настрою.

— З каторага-ж канца сяла зачнем.?

— Адтуль, ад Мількаўцаў — быў адказ.

— Наробім-жа нашым хлопцам работы. Будуць яны доўга памятаваць сяньняшнюю ноч. У калодзесі кідайма ўсё: дрова, хвораст і накрыем бараной, або чым іншым; трэба сані на стрэхі пазацягваць, коміны пазатыкаць, што дзе толькі знайдзем — усё пахаваць, няхай пашукаюць, каб толькі ўдалося!

Хлопцы таксама ня спалі, ведалі, што дзяўчаты сяньняшнюю ноч будуць рабіць розныя штучкі на вёсцы. Сабраўшыся ў Канчанскіх у хаце, пагасіўшы сьвятло, чакалі прытаіўшыся. Аж каля поўначы пачуліся недалёкія крокі і ў калодзесь, што стаяў перад вокнамі, падалі паленьні, асколкі, хвораст. Хлопцы не паказваліся, — чакалі, што далей будзе. Неўзабаўкі дзьве ўкручаныя ў хусткі асобы нясьлі барану — была гэта Броня з сваей суседкай. Тут ужо ня стала хлапцом цярпеньня, даўно былі і так злыя на Броню за яе фанабэрыі. Выбеглі з хаты і хапіўшы за сьнежкі, давай сыпаць...

Сьмех... крык... шум... беганіна... вясёласьць...

Старэйшае грамадзянства, знаючы свае беларускія абычаі, не перашкаджала нявіннай гульні моладзі. Хоць і няпрыемна было чысьціць калодзесь, ці шукаць бараны, саней, — ніхто аднак ня гневаўся.

Білі-ж тады хлопцы сьнежкамі дзяйчат, а гэтыя, хоць уцякаючы і губляючы абіякі, якія ня трымаюцца на нагах,— адбіваліся. І так хлопцы датуль ганялі іх, падбіраючы абіякі, аж пакуль не пазаганялі ўсіх у хаты спаць.

Вучасьнік Я. Н.



# Лісты.

## ДАРАГАЯ МОЛАДЗЬ, КІНЬ ПІЦЬ ГАРЭЛКУ!

**М. Крэва,** Ашмянскага пав. Аднаго разу, будучы ў Крэве, пацікавіўся я, як жыве і гуляе тамашняя моладзь, і заўважыў, што хіба нідзе так шмат гарэлкі ня п'юць і нідве так не разбэшчана моладзь, як у Крэве. Зайшоў я ў піўную — дык аж страх узяў — поўна людзей і ўсе гарэлку п'юць і так блізу ўсе дні сьвяточныя. Вечарамі-ж пачынаюць гуляць, але таксама непалюдзку — б'юцца палкамі, нажамі ды свінцоўкамі.

Дарагая моладзь, пратры ты вочы, глянь, што робіш— ты губіш сябе, сваю душу, свайго брата, пакаленьне, свой народ беларускі. Кінь ты піць гэту брагу — купі лепш сабе кніжку добрую, выпішы газэтку, а больш скарыстаеш — будзе гэта менш каштаваць, як гарэлка і будзеш ведаць што дзеецца ў сьвеце і пазнаеш больш праўды. Вось на пачатак віпішы „Шлях Моладзі“, не пашкадуй грошай і маленькага заходу!

**Падарожны.**

## ПАРА АПАМЯТАЦЦА.

**в. Ганчыцы,** Валожынскага пав. Пасьля сусьветнай вайны ў нас народ да таго развыдрэў, што сам нават не здае сабе справы, што робіць і гаворыць.

Судзіцца за абы якую маленькую ды нават без падстаўную прычыну. Бывае, што ў часе суду раз аднаму сьведчыць, а другі раз другому — праціўніку першага ў аднэй і тэй-жа справе, абы толькі добра „зафундаваў“.

Вось даражэнькія, гэта за такія рэчы, як кажуць, перад Богам грэх, а перад людзьмі сьмех, ды ня толькі сьмех, але і пагарда для тых, каторыя так паступаюць. Мы беларусы, павінны ўсе жыць згодна, не сварыцца, ня біцца ды ня судзіцца. Мы павінны адзін другому памагаць у гаспадараваньні і жыць так, як добрыя браты.

Бо калі мы будзем грысьціся адзін з другім, дык нас ніхто ня будзе ўважаць, нашы дамаганьні будуць нічым і мы ніколі не здабудзем належных сабе правоў.

Беларуская моладзь павінна перадусім гэта зразумець і жыць згодна з сваімі суседзямі ад самых маладых дзён, бо што замолада заробіш, як кажуць, дык на старасьць як знайдзеш. Як замалада жыць згодна, дык на старасьць таксама не пасварымся. Трэба вучыцца гадзіцца палюбоўна бяз ніякіх судоў.

Няхай-жа расьце і цьвіце супольнае брацкае жыцьцё беларускіх сялян!

**Я свой.**

#  Хроніка. 

**Канфіскату „Шляху Моладзі" зацьвердзілі.** 3 сьнежня 1929 году Віленскі Акружны Суд на сваім паседжаньні пастанавіў зацьвердзіць канфіскату нашай часопісі № 8 за месяц лістапад 1929 г., каторы быў сканфіскаваны за артыкул Я. Н. — „Крыху аб сучаснасьці" і верш Ул. Казлоўшчыка — „Падыміся народ"—у якіх пракуратар у бачыў праступак прадугледжаны 1 арт. уст. 2 Разп. Прэз. Р. П. з дн. 10.V.1927 г. і 129 арт. ч. I п. I Кодэксу Карнага.

З гэтай прычыны рэдактар „Шляху Моладзі" студэнт гуманістыкі ўнівэрсытэту С. Баторага ў Вільні Мар'ян Пецюкевіч будзе адказваць перад Акружным Судом.

**Канфіската „Беларускае Крыніцы №36.** 13 г. м. адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі „Беларускую Крыніцу" № 36 з 13 сьнежня г.г. за стацьці „Цяжкое палажэньне нашай вёскі" і „Каб не разьмінуцца з праўдай".

**Канфіскатата беларускага календара.** У пачатку гэтага м-ца ўлады сканфіскавалі беларускі адрыўны каленна 1930 год выданы ў 14.000 экзэмпляраў.

**Беларуска-украінска-літоўскі блёк.** 27.XI с. г. у Варшаве адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў беларускага, украінскага і літоўскага народаў. У канфэрэнцыі бралі ўчасьце ўсе партыі, стоячыя на грунце незалежніцкім, гэтых трох братніх народаў. Ад беларусаў бралі ўчасьце прадстаўнікі Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, Сялянскага Саюзу і Праваслаўнага Аб'яднаньня. Ініцыятыва гэтае канфэрэнцыі паходзіць ад беларусаў; выклікана яна цяжкім палажэньнем народаў беларускага украінскага і літоўскага ў Польшчы.

У выніку канфэрэнцыя пастанавіла: навязаць цясьнейшае супрацоўніцтва ў бязупыннай барацьбе за правы сваіх народаў і паклікаць да жыцьця сталы паразумеваўчы камітэт. У камітэт гэты уваходзіць па адным прастаўніку ад каждае партыі. Канфэрэнцыя так-жа сьцьвярдзіла, што з задуманаю зьменаю польскае канстытуці ідзе дамаганьне агранічыць правы няпольскіх народаў.

**400-лецьце літоўскага статуту.** З прычыны юбілею 400-лецьце Літоўскага Статуту Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры у Вільні 1 г. м. наладзіў урачыстае паседжаньне з учасьцем сяброў Рэвізыйнай Камісіі Інстытуту, Беларускага Студэнскага Саюзу і Рэдакцыйнай Калегіі „Шляху Моладзі". На паседжаньні сказаў прамову старшыня Інстытуту кс. В. Гадлеўскі.

**Арышт вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі.** 7 г. м. у Вільні адбыліся паховіны Ю. Юхны, сябры Т-ва Бел-Школы, быўшага грамадаўскага дзеяча. На магіле была ма-

ніфэстацыя, якую разагнала паліцыя і арыштавала 46 асоб, у гэтым ліку 6 вучняў з Віленскай Беларускай Гімназіі з 5 і 6 клясы.

**Новая кніжка.** У гэтым месяцы выйшла з друку кніжка кс. Ад. Станкевіча — „Rodnaja mowa ŭ światyniach". Кніжка гэтая — гэта гісторыя беларускай мовы ў касьцеле; на 200 старонках друку зьмяшчае яна многа фатаграфіяў тых асоб, якія гаварылі ў касьцеле казаньні пабеларуску і прыяцеляў беларускай мовы ў касьцеле, а так-жа апісвае гэная кніжка дамаганьне беларусаў каталікоў дазволу на беларускія казаньні. Адным словам, кніжка вельмі цэнная і цікавая каштуе 1 зл. 50 гр.; дастаць можна ў ваўсіх беларускх кнігарнях. Галоўны склад: кнігарня „Пагоня„ Вільня, Людвісарская вул. № 1.

**З украінскага жыцьця.** З прычыны тэрорызаваньня ўкраінскага руху у Усходняй Украіне, каторая ёсьць пад уладай маскоўскіх камуністаў, якія хочуць згладзіць, як кажуць, з гэтага савету ўсё ўкраінскае, як у Усходняй Беларусі беларускае — украінская моладзь Заходняй Украіны (пад Польшчай) вынесла пратэст і рабіла дэмонстрацыі ў Львове.

**З Польшчы.** 5 г. м. Польскі Сойм распачаў свае буджэтовыя паседжаньні. У дыскусіі над буджэтам выступаў ад Беларускага Пасольскага Клюбу пас. Ф. Ярэміч. Найважнейшае з працы Сойму — гэта выражэньне недаверу для цяперашняга ураду К. Сьвітальскага апазыцыйнымі партыямі, як П.П.С., Вызваленьне, Строніцтео Хлопске, украінскія і беларускія партыі, а так-жа эндэцыя.

Цяпер Польшча з прычыны адстаўкі ўраду, які пакульшто з распараджэньня Прэзыдэнта спаўняе і далей свае чыннасьці, перажывае ўрадавы крызыс. Калі ён кончыцца і хто ўтворыць і будзе стаяць на чале новага ураду—невядома. Кажуць, што пілсудчыкі ўраду з сваіх рук ня выпусьцяць. Прэзыдэнт аднак зазываў да сябе ў справе ўрадовага крызысу старшыняў польскіх апазыцыйных партыяў і маршалка Сойму і Сэнату, а так-жа былага прэм'ера Бартля.

**З заграніцы.** — У Канадзе безрабоцьце пашыраецца. У вадным толкі м. Торонті налічаюць да 15.000 безрабоных.

У Амэрыцы прэзыдэнт Гувэр падаў праект у Сэнат будовы новых 15 вялікіх ваенных караблёў. Пабольшылі так-жа ваенны буджэт. Адным словам, шыкуюцца да „спакойнага жыцьця."

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч.**

—Літва апошнім часам ідзе да таго, каб навязаць саюз з Швэцыяй і наадварод — Швэцыя з Літвой.

— Савецка-кітайская вайна ідзе да канца. Савецкае войска пабіла кітайцаў, каторыя гэтым, а так-жа ўнутраным бунтам, які нядаўна паўстаў, змушаны пайсьці на ўгоду з саветамі.

— У С. С. Р. Р. апошнімі часамі даюцца заўважыць вельмі частыя замены на становішчах, як краёвых так і заграпічных камісараў. Пашыраецца дыктатура Сталіна. З новым календаром, які ўжо ўводзяць, ідзе нялёгка. Паводле газэт, цяпер у С.С.Р.Р. многа разстрэліваюць людзей за зусім малое правіненьне проціў камуністычнай улады.

— Нядаўна ў Францыі памёр адзін з найбольшых францускіх палітыкаў Клемансо, званы „старым тыграм„.

У Нямеччыне распадаецца вялікая партыя нацыяналістаў

— У Чэхаславаччыне пасьля доўгіх торгаў паміж партыямі стварыўся новы ўрад, у які ўвайшлі прадстаўнікі амаль ня ўсіх палітычных партыяў.

— У Аўстрыі маюць зьмяніць канстытуцыю і з гэтай прычыны могуць быць вельмі радыкальныя зьмены ў дзяржаўным ладзе.

## Усячына.

**Шэсьць пальцаў на руцэ.** У Гішпаніі, у вёсцы Кэрвора недалёка Мадрыту, большая часьць людзей мае па 6 пальцаў на руках, што яны ўважаюць за рэч цалком добрую. І калі пабаровая вайсковая камісія звальняе іх ад вайсковай службы, прымаючы пад увагу калецтва, дык яны ўважаюць гэта за вельмі няразумнае, бо паводле іх шэсьцяма пальцамі можна больш зрабіць, чымся пяцьма.

**За 6 гадзін з Амэрыкі ў Эўропу.** У Амэрыцы паўстала супалка, каторая мае замер выбудаваць вялікі аэроплян, каторым можна будзе пераляцець з Амэрыкі ў Эўропу ў працягу 6 гадзінаў. У аэропляне мае памяшчацца 500 пасажыраў і сто асоб службы. Мае ён мець 12 вялізарных матораў і пралятаць будзе за 1 гадзіну 800 клм. Каштаваць будзе 44 мільёны 650 тысяч злотых.

**Колькі Польшча мае даўгоў.** Паводле аблічэньняў на 30 чэрвеня 1929 г. Польшча мае даўгоў 3 мільярды 744 мільёны 307 тысяч 220 злотых.

**Самаходы ў Амэрыцы.** Як вельмі распаўсюджаны самаходы ў Амэрыцы, сьведчыць тое, што там людзі старых самаходаў ня маюць, дзе дзець. Зразу хацелі паліць, а потым надумаліся і цяпер хочуць імі заваліць адно возера і зрабіць грэблю на аднэй рацэ.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# Наша пошта.

Рамэйку Т. За пажаданьні дзякуем. Вельмі цешымся, што „Ш. М.“ Вам падабаецца і што Вы будзеце яго пашыраць.

Я. Плавейскаму. Беларускі адрыўны календар на 1930 г. ужо выўшаў з друку і прадаецца ўваўсіх беларускіх кнігарнях, цана 1 экз. 90 гр. Калі хочаце паступіць на курсы шофэрскія, то напішыце просьбу да Дырэкцыі Курсаў Самахадовых у Вільні, Панарская вул. № 55, а яна Вас паведаміць, аб варунках; ці дарма Вас вучыць будуць — ня знаем, бо там трэба за трымесячны курс плаціць 300 зл. Пішыце да іх, можа якнебудзь устроіцеся.

Міколку Круцёлку. Вершы Вашы атрымалі, разгледзім, як будуць падходзіць, будзем друкаваць.

Трэпку: Верш Ваш атрымалі, дзеля таго аднак, што Вы не падалі свайго адрасу, мы ня будзем нават яго разглядаць, ня тольк', зьмяшчаць. Рэдакцыя мусіць ведаць, хто зьяўляецца яе супрацоўнікам.

М. Саваньню, В. Саўчыцу, Я. Згрудзе, Краўчонку: На Вашу просьбу „Шлях Моладзі“ высылаем і чакаем абяцанага.

Атрымалі ад: Др. Іг. Гагалінскага 5 зл.; Харытоніка Міх. 4 зл. Бараноўскага, Гаўрылені Б., Целяша Міхала па 2 зл., Грушніка Я., Гурэцкага Алекс., Комбача Мік. па 1 зл. шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі“ пасылаем.

